*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 31 (1442) 31 ЛІПЕНЯ 2019 г.**

# 27 ліпеня на Лідчыне

27 ліпеня на Лідчыне традыцыйна прайшло пад знакам ушанавання памяці паўстанцаў 1863 года. І няма нічога дзіўнага ў сумяшчэнні гэтай даты і гэтай памяці. 27 ліпеня 1990 года - дзень прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі падвёў рысу пад многімі этапамі змагання за незалежнасць нашай краіны і стаў магчымым у многім і дзякуючы гэтаму паўстанню.

Урачыстасці пачаліся з імшы ў паўстанцкай капліцы ў былым засценку Станкевічы. Служыў імшу ксёндз Андрэй з касцёла Спаслання Святога Духа г. Бярозаўкі. Паводле легегнды гэтую капліцу паўстанцы склалі за адну ноч. Недзе ў пачатку 50-х гадоў НКВД вывезла ўвесь засценак Станкевічы ў Сібір, і капліца стаяла занядбанай. З Сібіры вярнулася толькі адна сям'я. Ужо ў 21 стагоддзі капліца была адноўлена, і хоць і рэдка, а тут бываюць набажэнствы.











Пасля імшы быў асвечаны крыж на магіле паўстанцаў 1863 года, адноўлены ваяснай гэтага года ў былым фальварку Стрэліца. Ад Станкевічаў да Стрэліцы напрасткі - кіламетраў тры, таму найбольш верагодна, што пахаваны там паўстанцы з таго ж аддзела, які будаваў капліцу. Сюды на магілу была прывезена зямля з магілаў паўстанцаў у Вільні і далучана да векавечнай зямлі кургана. Асвяціў крыж ксёндз Андрэй.

Пасля Стрэліцы сябры розных груп грамадскасці наведалі мемарыял у Шчытніках паміж Малым Ольжавам і Мохавічамі. Сюды таксама прывезлі зямлю з віленскіх магіл. Дарэчы, там у Вільні было пахавана вельмі шмат лідзян, расстраляных і павешаных за ўдзел у паўстанні.

І апошнім пунктам стаў млын у Дварышчы, дзе была адкрыта першая ў Беларусі арт-выстава, прысвечаная паўстанню 1863 горда на Лідчыне. Арт-выстава - гэта шэсць вялікіх пластыкавых планшэтаў на стойках. Тут дзясяткі партрэтаў, да сотні імёнаў і вялікі аб'ём інфармацыі. Выстава рыхтавалася для Тарноўскай школы (бліжняй ад мемарыяла ў Шчытніках) і рабілася ў мабільным варыянце, каб можна было перавозіць яе са школы ў школу. Усё было ўзгоднена з аддзелам адукацыі, але потым улады далі задні ход, і выстава размясцілася на прыватнай тэрыторыі.



Падчас адкрыцця было сказана пра гатоўнасць да адкрыцця музея паўстання. Ёсць цэлы паверх у 600 кв. м, але адным лідзянам падняць гэта будзе цяжка. Гэта мусіць быць агульнанацыянальны праект. Беларуская грамадскасць сёння ўжо можа ўласнымі сіламі ствараць такі музей.

У гонар паўстанцаў прагучалі патрыятычныя песні ў выкананні Зміцера Захарэвіча. Нажаль, вялікі канцэрт арганізаваць не выйшла, бо ўсе гэтыя дзеі занялі час з 14.00 да 19.00. Дзень быў перагружаны, але ўсё трэба было зрабіць.

Тыя, хто захоча наведаць выставу, маюць звяртацца ў лідскую турфірму "Адрас лета": 231300, Рэспубліка Беларусь, г. Ліда, вул. Чапаева, 8. Тэлефоны: 8 - (0154) 52-43-44, 8 - (029) 88-22-119, 8 - (0154) 53-03-03, 8 - (044) 500-500-9, E-mail: adresleta@gmail.com.

Першыя цікаўныя ўжо ёсць.

***Яраслаў Грынкевіч.***

ISSN 2073-7033


9 772073 703003

# “Нясвіжскія каеты” № 2




27 ліпеня ў сеціве з’явіўся 2-гі нумар краязнаўчага літаратурна-гістарычнага часопіса “Нясвіжскія каеты”, заснаванага Нясвіжскай раённай арганізацыяй ТБМ імя Ф. Скарыны.

Першы нумар у штыкі былі сустрэты нясвіжскімі ідэолагамі і вельмі прыхільна нясвіжскімі і сапраўднымі краязнаўцамі ды паспалітымі чытачамі.

Другі нумар атрымаўся некалькі мякчэйшым. Сярод асноўных матэрыялаў:

- *Наш наступны крок да чытача* - уступны артыкул Валерыя Дранчука;
- *100 дубоў для Жылкі* - матэрыялы памяці Уладзіміра Жылкі;
- *45 гадоў Карцэвіцкай школе;*
- *Атамная рэпетыцыя* - успаміны пра ўдзел жыхароў Нясвіжскага раёна ў выпрабаванні атамнай бомбы на Тоцкім палігоне;
- *Студзёнскія гісторыі* - краязнаўчыя нататкі з гісторыі і сучаснасці вёскі Студзёнкі, напісаныя мясцовым жыхаром Аляксандрам Абрамовічам;
- *Іосіф Макрэцкі - дэпутат-беларус польскага Сейма (вынікі аднаго пошуку)* - аўтары: Ганна Байрашэўская, малодшы навуковы супрацоўнік ДУ "Музей гісторыі Клеччыны", Андрэй Бліпец, старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка "Нясвіж";
- *Даніна памяці* - працяг успамінаў Вікторыі Жукевіч-Дзівоты.
- *Запозненае прызнанне* - пачатак кнігі кандыдата філасофскіх навук Васіля Драгаўца пра вёску Хадатавічы Нясвіжскага раёна, кніга выйшла ў 2018 годзе вельмі невялікім накладам і мала даступная шырокаму чытачу;
- *Дзяржава волатаў* - урывак з яшчэ ненадрукаванай кнігі доктара гістарычных навук Алеся Краўцэвіча;
- *Каб і слоўцам не зграшыць* - працяг паэмы Віктара Дземеша пра Сымона Буднага;
- *Кот, па якім сумуюць Нясвіж і Парыж* - апавяданне Ігнася Адамскага і інш.

Часопіс можна знайсці на сайтах:

http//nslowa.by
http//pawet.net
http//kamunikat.org
http//belkiosk.by.

Выпуск другога нумара злёгку затрымаўся. Дапытлівы чытач заўважыць, што тут шмат новых аўтараў. Ідзе станаўленне і прыцірка аўтарскага калектыву.

Абяцаны аб’ём вытрыманы - 78 старонак (з вокладкай).

Разам з тым рэдкалегія думае і працуе над пашырэннем тэматыкі і кола краязнаўцаў, якія захочуць надрукавацца. Мы бачым, што пакуль нясвіжскія ідэолагі крывяць губу ў бок часопіса, тут ужо з’явіліся матэрыялы навуковага супрацоўніка замкавага комплекса “Нясвіж” і Клецкага музея, ганаровых нясвіжцаў і ветэранаў, і так будзе далей.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# Сустрэча з Паэтам і Чалавекам

Ці не кожныя выходныя жыхары вёскі Вострава Слонімскага раёна бачацца з земляком, журналістам, намеснікам галоўнага рэдактара "Газеты Слонімскай" Міколам Канановічам, які прыязджае ў родную хату да мамы, Тацяны Іванаўны. А ў мінулую суботу востраўцы запоўнілі мясцовы клуб, каб убачыцца з Міколам Канановічам як паэтам.







Нават не прыпомню іншай такой сардэчна-кранальнай сустрэчы, размовы. Неабыякавасць - тое, што аб'яднала 20 ліпеня ў Востраўскім клубе Міколу Канановіча з аднавяскоўцамі, родзічамі, сябрамі, якія гаварылі і пра вершы паэта, і пра чалавека Міколу Канановіча, бо аднаго без другога не бывае.

Загадчыца Востраўскай бібліятэкі Кацярына Ігнатовіч правяла агляд кніжнай выставы, а загадчыца клуба Валянціна Лаўрутыч распавяла пра школьныя гады паэта. Найперш гэтыя адданыя беларускай культуры жанчыны і прысутныя востраўцы надалі сустрэчы асобую аўру. Аўтар гэтых радкоў нагадаў пра М. Канановіча як Настаўніка, кіраўніка літаратурнага гуртка падлеткавага клуба "Святліца" грамадскага аб'яднання "Воля да развіцця", складальніка і рэдактара двух выпускаў моладзевага літаратурнага альманаха "Ад Я да Я" (2001, 2003), і што Міколу Канановіча па сягоння з піетэтам і ўдзячнасцю ўспамінаюць яго́ныя выхаванцы. Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў Сяргей Чыгрын адзначыў важнасць таго, што творчая вечарына праходзіць у роднай вёсцы паэта ці, як модна цяпер казаць, на малой радзіме, хоць, насамрэч, падкрэсліў Сяргей Мікалаевіч, для чалавека родныя мясціны, родная вёска - гэта Вялікая Радзіма, і пажадаў, каб вершы паэта апошніх гадоў былі выдадзены асобнай кніжкай. Было і пажаданне ад роднай сястры пісаць болей вясёлых, аптымістычных вершаў, на што беларускі мастак Мікола Бушчык заўважыў:

- Быць Паэтам - гэта пакліканне Бога, Паэт - гэта вушы Бога, Паэт не можа пісаць іначай, калі бачыць землякоў, якія жывуць са свайго мазаля за 200-300 рублёў.

Са свайго боку дадам. Так, усе мы любім, кахаем, радуемся і смуткуем, перажываем, але толькі Паэт здольны, ахвяруючы сабою, убачыць у сваё сэрца людскі боль і вярнуць нам яго ў вершах уже надзеяй і выратаваннем.

Сам вінаўнік урачыстасці прачытаў падборку сваіх вершаў апошніх гадоў з літаратурнага альманаха "Новы Замак", які выдае Гарадзенскае абласное аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў. Самым першым Мікалай Мікалаевіч прачытаў верш, прысвечаны свайму сябру, знакаваму беларускаму паэту Анатолю Сысу. Гэты верш, як падаецца, у значнай ступені ёсць лейтматывам паэтычнай творчасці Міколы Канановіча і паказвае яго самога як чалавека.




Сюрпрызам для паэта стаўся прыезд яго́ных сяброў з Баранавіч - паэткі Тацяны Яцук і спявачкі Рэгіны Скіпар, якая выканала некалькі песень на вершы Т. Яцук. Былы дырэктар Сянькоўшчынскай школы Уладзімір Лабко прачытаў некалькі дасціпных пародый на вершы М. Канановіча і праспяваў украінскую песню "Чорныя бровы, карыя вочы". Сястра Святлана з унукамі падарыла паэту кветкі, а пляменнік Ціхан і жонка Ірына Мікалаеўны прачыталі прысвечаныя ім вершы паэта, што дадало асобыя эмоцыі ў агульную святочную атмасферу, якая панавала ў зале, у тым ліку дзякуючы вядоўцы сустрэчы Святлане Адамовіч, старшыні Слонімскай суполкі ТБМ.

Адзіная кніга Міколы Канановіча "І доўжыцца ноч", выдадзеная ў 2003 годзе, пачынаецца вершам з такімі радкамі:

*Бяссонная ноччу цягнікі*
*Журбу маю па незваротным*
*Жыцці, як ссохлыя лісты,*
*Нясуць не мілым і не родным -*
*Нясуць у невядомы край,*
*У недасяжны мройны выраі,*
*Дзе не бывае змрочных зграй*
*Людзей са звычкаю ваўчынай… .*

Як падаецца, 20 ліпеня 2019 года ў Востраўскім сельскім клубе збылася раней недасяжная мроя Паэта, а журба адступіла.

***Міхась Варанец.***

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Павел Сцяцко

# Прозвішчы Беларусі

## Новая серыя. Частка IV

**Камзолаў** (Аляксандр) - форма прыметніка з прыналежным суфіксам *-аў* ад антрапоніма *Камзол* і і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Камзол-аў*. Утваральнае слова - ад апелятыва *камзол* (уст.) 'даўнейшая мужчынская верхняя вопратка, звычайна без рукавоў'. ФП: *камзол* ('вопратка') - *Камзол* (мянушка, пазней прозвішча) - *Камзолаў*.

**Кандрашонак** (Ніна) - вытвор з суфіксам *-онак* ад антрапоніма *Кандраш* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Кандраш-онак - Кандрашонак*. Адымёнавае прозвішча: ад *Кандрацій, Кандрат* (< грэч. 'шыракаплечы'); зафіксавана *Кандраш* (1582) - імя, потым прозвішча) - *Кандрашонак*.

**Канонік** (Уладзімір) - семантычны вытвор ад апелятыва *канонік* 'святар' ("Вялікі слоўнік беларускай мовы" Ф. Піскунова, с. 415) або варыянт імя *Конан* (< грэч. 'які працуе, служыць, спяшаецца') ці 'нашчадак Конана', суфікс *-ік - Канон-ік*.

**Каратышэўскі** (Алег) - вытвор з суфіксам *-эўскі* ад тапоніма *Каратышы* і значэннем 'нараджэнец, жыхар названай мясціны, паселішча': *Каратыш-эўскі - Каратышэўскі*. ФП: *каратыш* (рэг.) 'малы, нізкага росту чалавек' (Нас.), руск *коротыш* 'тое самае'; 'кароткая рэч' (Даль) - *Каратыш* (мянушка, потым прозвішча) - *Каратышы* (тапонім: 'мясцовасць, паселішча з прозвішчамі *Каратыш*') - *Каратышэўскі*. Або шляхетная форма ад прозвішча *Каратыш (Каратыш-эўскі)*.

**Карэнка** (Кацярына) - вытвор з суфіксам *-энка* ад антрапоніма *Кары* і значэннем 'нашчадак (дачка) названай асобы': *Кар-энка - Карэнка*. Утваральнае слова *Кары* ад апелятыва *кары* 'карычневы (пра колер вачэй)'. ФП: *кары* ('чарнавокі') - *Кары* (антрапонім) - *Карэнка*.

**Касабука** (Кацярына) - семантычны вытвор ад апелятыва *касабука, касабуцкі* 'касавокі' (Нас.).

**Касмачэўскі** (Мікалай) - вытвор з суфіксам *-эўскі* ад тапоніма *Касмачы* і значэннем 'нараджэнец (жыхар) названай мясціны, паселішча': *Касмач-эўскі - Касмачэўскі*. ФП: *касмачы* (разм.) 'доўгія ўзлахмачаныя пасмы валасоў') - *касмач* ('асоба з доўгімі, касматымі валасамі') - *Касмач* (мянушка, потым прозвішча) - *Касмачы* ('паселішча з прозвішчамі *Касмач*') - *Касмачэўскі*. Або ад імя *Касма, Кузьма* (< грэч. 'упрыгожанне').

**Касцецкі** (Станіслаў) - адымёнавы вытвор ад польск. *Konstancjusz* < лац. *Constantinus* < *constans* 'стойкі, пастаянны, цвёрды'.

**Касцюшка** (Кацярына) - народная форма (зафіксавана ў 1556 г.) імя *Канстанцін* (< лац. 'цвёрды, стойкі, пастаянны') набыла функцыю прозвішча.

**Каўрус** (Алесь) - магчымая другасная акцэнтаваная форма ад *Хаўрус* (параўн. фанетычныя варыянты: *магу - мог* [*мох*], руск. *могу - мог* [*мок*]) - семантычны вытвор ад апелятыва *хаўрус* (разм.): 1) 'група людзей, звязаных агульнымі інтарэсамі, мэтамі'; 2) 'саюз, садружнасць'. Першасная форма - апелятыў *хаўрус* - мае свае вытворы: *хаўрусаваць* 'быць у хаўрусе'; *хаўруснік* 'саўдзельнік у якой-н. справе, у хаўрусе'; ж. *хаўрусніца*, прым. *хаўрусніцкі* (СБЛМ - 2016, с. 893). Параўн. таксама: *халабурда* 'растрёпа, разгільдзяй' (Фасм., т. 4, с. 216) і *галабурда* (укр.) 'дэбош, буянства, дэбашыр, буян' (Грынч.).

**Кашкурэвіч** (Арлен) - форма бацькаймення з фармантам *-эвіч* ад антрапоніма *Кашкур* з семантыкай 'нашчадак названай асобы': *Кашкур-эвіч*. Утваральнае слова *Кашкур* можа быць семантычным дэрыватам ад апелятыва *кашкур* - утварэння ад *кошка* з семантыкай 'аматар забаўляцца з кошкай' або 'мурлыкаў, як кошка'. ФП: *кошка - кашкур - Кашкур* (мянушка, потым прозвішча) - *Кашкурэвіч*. Параўн. *татур, дзяўчур, хлапчур* - дэрываты з суфіксам *-ур* ад *тата, дзеўка, хлопец* ("Беларускае народнае словаўтварэнне" П. Сцяцко).

**Кебіч** (Ірына) - вытвор з суфіксам бацькаймення *-іч* ад антрапоніма *Кеб* і значэннем 'нашчадак (дачка) названай асобы': *Кеб-іч*. Утваральнае слова *Кеб* ад апелятыва *кеб* 'аднаконны экіпаж у Англіі' (англ. *cab*) ("Словарь русского языка" в 4 т., т. 2, с. 45, М., 1982). Або ад укр. *кеба* 'здольнасць, уменне' (Грынч.) - *Кеба* (мянушка, пазней прозвішча) - *Кебіч*. Або, семантычны дэрыват ад апелятыва *кебіч* 'балотная птушка кнігаўка' (ад *Kiebitz* : Дзеяслоў. 2013. № 6. С. 241)

**Кіюнін** (Міхаіл) - форма прыналежнага прыметніка з суфіксам *-ін* ад антрапоніма *Кіюня* і знаэннем 'нашчадак названай асобы': *Кіюн-ін*. ФП: *кій* (стараж. 'молат, малаток') - *Кій* (празванне, пазней прозвішча) - *Кіюня* (вытвор з суфіксам *-уня/-юня* ад *Кій* і значэннем 'нашчадак (сын) *Кія*' - *Кіюнін*.

**Клебановіч** (Арнольд) - вытвор з акцэнтаваным суфіксам бацькаймення *-овіч* ад антрапоніма *Клебан* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Клебан-овіч - Клебановіч*. Утваральнае слова ад апелятыва (рэг.) *клебан* < літ. *Klebanas* 'ксёндз'.

**Клімаш** (Юрый) - народнагутарковая форма з фіналлю *-аш* ад імя *Клім, Клімент* (< лац. *clemens* 'міласэрны, літасцівы, ласкавы') набыла ролю прозвішча. Зафіксавана ў 1552 г.

**Коц** (Аляксандр) - семантычны вытвор ад апелятыва *коц* 'суконная коўдра' ("Слоўнік народнай мовы Зэльвеншчыны" П. Сцяцко, с. 62), 'лямец' (Гарб.), 'старажытны дыван' (Даль).

**Краўневіч** (Валянцін) - вытвор з акцэнтаваным суфіксам бацькаймення *-евіч* ад антрапоніма *Кроўны* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Кроўн-евіч - Краўневіч*. Утваральнае слова ад апелятыва *кроўны* 'родны па крыві, які паходзіць ад адных продкаў'; перан. 'вельмі блізкі, цесны, моцны, непарушны'.

**Крупская** (Жанна) - вытвор з суфіксам *-ская* ад тапоніма *Крупы (Крупкі)* і значэннем 'нараджэнка (жыхарка) названай мясцовасці': *Круп-ская - Крупская*.

**Кручынін** (Іван) - форма прыметніка з прыналежным суфіксам *-ін* ад антрапоніма *Кручына* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Кручын-ін - Кручынін*. Утваральнае слова ад апелятыва *кручына* < руск. *кручина* фалькл. 'журба, смутак, маркота, туга'.

**Крывалевіч** (Наталля) - вытвор з акцэнтаваным суфіксам бацькаймення *-евіч* ад антрапоніма *Крываль* і значэннем 'нашчадак (дачка) названай асобы': *Крываль-евіч - Крывалевіч*. Утваральнае слова ад апелятыва *крываль* 'крывы'; структура слова *крыв-аль*; параўн. *доўгі - даўгаль, тонкі - танкаль* ("Беларускае народнае словаўтварэнне" П. Сцяцко, с. 94).

**Крэмень** (Пінхус) - семантычны вытвор ад апелятыва *крэмень* 'вельмі цвёрды мінерал, які першапачаткова ўжываўся для высякання агню'; перан. 'пра чалавека з цвёрдым характарам'.

**Кузюр** (Святлана) - вытвор з суфіксам *-юр* ад антрапоніма *Кузя* і значнем 'нашчадак (дачка) названай асобы': *Куз-юр - Кузюр*. Утваральнае слова *Кузя* (1556) - варыянт імя *Кузьма, Касма* < грэч. 'упрыгожанне'.

**Куксенка** (Вікторыя) - вытвор з акцэнтаваным суфіксам *-енка* ад антрапоніма *Кукса* і значэннем 'нашчадак (дачка) названа асобы': *Кукс-енка*. Утваральнае слова ад апелятыва *кукса* 'частка канечнасці, якая засталася пасля аперацыі або калецтва'. ФП: *кукса* ('частка канечнасці') - *Кукса* (мянушка чалавека з куксай) - *Кукса* (прозвішча) - *Куксенка (Куксянко)*.

**Курак** (Ганна) - семантычны вытвор ад апелятыва (рэг.) *курак* 'самец курыцы, певень' (утварэнне: *кура* ('курыца') - *курак*; як і *гусь - гусак*). Або ад *курак* 'аладка з цеста' (А. Каўрус). Або магчымая другасная формаа ад *Акурак* - ад апелятыва *акурак* 'недакурак, рэшткі выкуранай ці недакуранай папяросы, цыгарэты'. Параўн. формы з адпадзеннем пачатковых гукаў (літар.): *арабей* < *варабей* 'верабей', *спадар* < *гаспадар*.

**Кутузаў** (Уладзіслаў) - форма прыметніка з прыналежным суфіксам *-аў* ад антрапоніма *Кутуз* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Кутуз-аў - Кутузаў*. Утваральнае слова *Кутуз* ад апелятыва *кутуз* (руск.) 'падушка, на якой плятуць карункі', 'клумак' (Даль).

**Кухціна** (Аляксандра) - форма прыналежнага прыметніка з суфіксам *-ін-а* ад антрапоніма *Кухта* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Кухт-іна - Кухціна*. Утваральнае слова ад апелятыва *кухта* (устар.) 'вучань кухара (Нас.), укр. *кухта* 'сын ці памочнік кухара, повара' (Грынч.).

**Кучмасаў** (Алег) - форма прыметніка з прыналежным суфіксам *-аў* ад антрапоніма *Кучмас* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Кучмас-аў*. ФП: *кучма* 'тое, што і *кучомка* (шапка футрам наверх)', *кучма* 'пра пышныя густыя валасы', 'пра густую зелень' (перан.) - *Кучма* (мянушка, потым прозвішча) - *Кучмас* (ацэначная форма асобы з прозвішчам *Кучма*: утварэнне з суфіксам *-ас*: *Кучмас - Кучмас*; параўн. *дырда - дырдас* 'свавольнік, дураслівец' (Нас.) ("Беларускае народнае словаўтварэнне" П. Сцяцко, с. 195).

**Лавіцкі** (Мікола) - вытвор з суфіксам *-скі/-цкі* ад тапоніма *Лавы (Лаві-кі)* і значэннем 'нараджэнец, жыхар названай мясціны, паселішча': *Лавік-скі - Лавіцкі; Лав-іцкі - Лавіцкі.*

**Лазебная** (Анастасія) - семантычны вытвор ад апелятыва - прыметніка *лазебны (-ая)* 'які адносіцца да лазні; *лазебнік*' (Бір.).

**Лантушэвіч** (Ірына) - вытвор з акцэнтаваным суфіксам бацькаймення *-эвіч (-евіч)* ад антрапоніма *Лантух* і значэннем 'нашчадак (дачка) названай асобы': *Лантух-евіч - Лантуш(х/ш)-эвіч*. ФП: укр. *лантух* 'мяшок' - *Лантух* (празванне, потым прозвішча) - *Лантушэвіч*.

**Ласянкова** (Дар'я) - вытвор з прыналежным суфіксам *-ов-а* ад антрапоніма *Ласянок* і значэннем 'нашчадак (дачка) названай асобы': *Ласянок-ова - Ласянкова*. Утваральнае слова ад рэг. апелятыва *ласянок* 'ласяня'.

**Латышкевіч** (Інга) - вытвор з акцэнтаваным суфіксам бацькаймення *-евіч* ад антрапоніма *Латышка* і значэннем 'нашчадак (дачка) названай асобы': *Латышкевіч*. Утваральнае слова ад апелятыва *латышка* - жан. да *латыш* 'народ, які складае асноўнае насельніцтва Латвіі'.

**Лемяшэўская** (Ларыса) - вытвор з суфіксам *-ская* ад тапоніма *Лемяшэўка* і значэннем 'нараджэнка ці жыхарка названага паселішча': *Лемяшэў(ка)ская*; або ад *Лемяшы* з суфіксам *-эўская*: *Лемяш-эўская*. Ці форма з прэстыжным суфіксам *-эўская* ад прозвішча *Лемеш - Лемеш-эўская*, якое ад апелятыва *лямеш* 'частка плуга, якая падразае пласт зямлі знізу і адвальвае яго'. ФП: *лямеш* ('частка плуга') - *Лямеш* (мянушка, пазней прозвішча) - *Лемяшы, Лемяшоўка* (тапонім з прозвішчамі *Лямеш* ці *Лемеш*) - *Лемяшэўская*.

**Лета** (Вольга) - семантычны вытвор ад апелятыва *лета* 'самая цёплая пара года паміж вясной і восенню'. Або ад *Лета*: у грэчаскай міфалогіі - рака забыцця ў падземным свеце' (ТСБМ, т. 3, с. 38). Калі мець на ўвазе пару года, то гэтаму антрапоніму ёсць антытэза *Зіма* (Іван).

**Лісавец** (Ала) - вытвор з суфіксам *-ец* ад тапоніма *Лісава* і значэннем 'нараджэнка ці жыхарка названай мясцовасці': *Лісавец*. ФП: *ліс* ('самец лісы') - *Ліс* (прозвішча) - *Лісава* ('уладанне *Ліса*') - *Лісавец*.

**Луніна** (Вольга) - форма прыметніка з прыналежным суфіксам *-ін-а* ад антрапоніма *Лунь* і значнием 'нашчадак (дачка) названай асобы': *Лунь-іна - Луніна*. Утваральнае слова *Лунь* ад апелятыва *лунь* 'драпежная птушка сямейства ястрабіных (з шаравата-белым апярэннем у дарослых самцоў); мышалоў'.

**Луннік** (Мікалай) - семантычны вытвор ад апелятыва *луннік* 'шматгадовая травяністая расліна сямейства крыжакветных з ліловымі духмянымі кветкамі і сэрцападобнымі лістамі' (ТСБМ, т. 3, с. 62).

**Лунь** (Кацярына) - семантычны вытвор ад апелятыва *лунь* 'драпежная птушка сямейства ястрабіных (з шаравата-белым апярэннем у дарослых самцоў); мышалоў'.

**Лушч** (Алена) - семантычны вытвор ад апелятыва *лушч* < укр. *лущ* 'назва птушкі' (Грынч.).

**Лысюк** (Агнія) - вытвор з суфіксам *-юк* ад антрапоніма *Лысы* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Лыс-юк*. Утваральнае слова ад апелятыва *лысы* 'які мае лысіну, з лысінай'; перан. 'пазбаўлены раслінасці'.

**Лябецкі** (Ігар) - вытвор з суфіксам *-скі* ад тапоніма *Лябяды, Лябеды* і значэннем 'нараджэнка ці жыхарка названай мясцовасці': *Лябяд-скі - Лябяцкі, Лябед-скі - Лябецкі* (напісанне паводле фанетычнага прынцыпу правапісу). Або ад антрапоніма *Лебяда* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Лебяд-скі -Лябедскі - Лябецкі.*

**Лямцава** (Ларыса) - форма прыналежнага прыметніка з суфіксам *-ав-а* ад антрапоніма *Лямец* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Лямец-ава - Лямцава*. Утваральнае слова ад апелятыва *лямец* 'тоўсты, шчыльны матэрыял з шэрсці, воўны'. ФП: *лямец* ('матэрыял') - *Лямец* (мянушка, пазней прозвішча) - *Лямцава*.

**Майніч** (Ладзік) - вытвор з суфіксам бацькаймення *-іч* ад антрапоніма *Майна* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Майн-іч*. Утваральнае слова *Майна* ад апелятыва *майна* 'выклічнік, у мове такелажнікаў, будаўнікоў: выраз са значэннем 'апускай уніз' (ТСБЛМ - 2016, с. 411).

*(Працяг у наст. нумары.)*

# Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў жніўні

Адамін Іван
Адамчык Валер Зянонавіч
Азаранка Аляксандр Іванавіч
Акіменка Антаніна
Акрамава Іна
Акрушка Яўген Анатольевіч
Александровіч Ала Ібрагім.
Альхіменка Лідзія
Альховік Надзея Васільеўна
Аляксандровіч Валянціна
Анацка Алег
Андрэеў Ілля Аляксандравіч
Антановіч Кастусь Уладзімір.
Антанюк Раіса Рыгораўна
Анціпенка Алесь Ілліч
Арлоў Уладзімір Аляксеевіч
Арэшкава Марыя
Асаула Рыгор Міхайлавіч
Астапенка Анатоль Уладзімір.
Бакач Алесь Уладзіміравіч
Бандарчык Уладзімір Мікал.
Банцэвіч Ілья Сямёнавіч
Барадзіна Інга Мікалаеўна
Бардашэвіч Яна Валер'еўна
Бартноўская Яна Аляксандр.
Барысік Таццяна Іванаўна
Басанец Анастасія Ільінічна
Басін Якаў Зіноўевіч
Бахметава Святлана
Бацюкоў Аляксей Мікалаевіч
Белахвостава Людміла Ігараўна
Більскі Ілья Андрэевіч
Блоцкая Ірына Мікалаеўна
Бранішэўская Света
Бубешка Антаніна
Бука Алег Рывалдавіч
Бурко Іосіф Віктаравіч
Бут-Гусаім Святлана Феадос.
Вайноўскі Міхаіл
Валатоўскі Вячаслаў Валянцін.
Варапееў Уладзімір
Васіляўскайце Таццяна
Васько Яніна Мікалаеўна
Ваўранюк Ірына Ільінічна
Войніч Станіслаў Эдуардавіч
Воўк Яўген
Вуек Ул. Ул.
Вырвіч Барыс Іванавіч
Вячорка Аляўціна Сямёнаўна
Габец Ягор Валер'евіч
Галавіна Клаўдзія Іванаўна
Галаўнёў Мікалай Іванавіч
Галоцік Ірына Пятроўна
Галубовіч Ксенія Леанідаўна
Гаплічнік Аксана Мікалаеўна
Гапоненка Алег Паўлавіч
Гаравая Ніна Віктараўна
Гарэлікаў Уладзімір Марат.
Гедрэвіч Валянціна
Глазырын Сяргей
Грудніцкая Тамара
Грыгенча Вераніка
Грынюк Вольга Віктараўна
Грышуніна Наталля
Губскі Уладзімір
Гудкова Вольга Уладзіміраўна
Гундар Марына Юр'еўна
Дабравольскі Андрусь
Дабрадзей Алеся Пятроўна
Дакурна Генрых Фабіянавіч
Дарафяюк Міхаіл
Дваранчук Юры Яўгенавіч
Дзергачова Любоў Рыгораўна
Дзешчыц Алена Аляксандр.
Дзьячкова Ларыса
Дзянісік Алена
Догелева Ала
Доўгі Уладзімір
Драздоў Юры
Другакоў Уладзімір Пятровіч
Дрыгайла Зміцер Ісаакавіч
Дычок Сяргей Уладзіміравіч
Ерашэня Раман Віктаравіч
Жаркоў Аляксандр Іванавіч
Жаўрыд Марына Аляксандр.
Жукоўская Алеся Іванаўна
Забенька Сяргей Аляксандр.
Запрудскі Сяргей Мікалаевіч
Зверава Тамара
Зуева Валянціна Дзмітрыеўна
Зянько Аляксей Андрэевіч
Іваноў Мікалай Аляксеевіч
Іскарцкая Марына
Каваленка Анастасія Уладзім.
Кавалеўскі Яўген Міхайлавіч
Кажарская Эліна Сяргееўна
Казак Алег
Казмірук Аліна Вітальеўна
Камарова Алена Аляксандр.
Камароўскі Мікалай Міхайл.
Камароўскі Мікола Іванавіч
Камбалава Анжаліка Набіл.
Камянецкая Ірына
Кананенка Тамара Міхайлаўна
Канкаловіч Вера
Кануннікава Ніна Паўлаўна
Капціловіч Тамара
Карабельнікава Алена
Карніенка Мінай Лявонавіч
Кароль Алег
Карпекін Канстанцін Рыгор.
Карповіч Андрэй Уладзімір.
Касаты Людвіг Канстанцінавіч
Касьяненка Антон
Кірвель Юзаф Юзафавіч
Князева Часлава Вячаславаўна
Коваль Альвіна
Козіч Ганна Леанідаўна
Колесень Ірына
Копыл Ілля Піліпавіч
Корбут Аляксандр Іванавіч
Косінец Анатоль
Краснік Вольга
Краснова Наталля
Красюк Фёдар
Краўцоў Генадзь Сямёнавіч
Краўчанка Пётр Кузьміч
Крокас Ірына
Круглая Марына Віктараўна
Кручонак Ігар Мікалаевіч
Кузьміч Леанід Пятровіч
Кузьмянкоў Зміцер Уладзімір.
Куксар Наталля
Куль Дзмітры
Кунцэвіч Святлана Віктараўна
Купава Вітаўт Мікалаевіч
Куплевіч Віталь Эдуардавіч
Курловіч Аляксандр Адамавіч
Кушаль Глафіра Васільеўна
Леановіч Алена Георгіеўна
Лемеш Яўген Вікенцьевіч
Леляшко Аляксандр Віктар.
Лойка Тамара
Лук'янава Марыя Рыгораўна
Ляскоўскі Уладзіслаў Канстан.
Ляўкевіч Наталля Міхайлаўна
Ляшкевіч Таццяна
Маёрава Вольга Уладзімір.
Макарэвіч Віталь Сяргеевіч
Малашчанка Уладлена Алег.
Малей Кацярына
Маліноўскі Макар Яўгенавіч
Мальдзіс Адам Восіпавіч
Мандрык Наталля
Мандрыкін Раман Аляксандр.
Марцінкевіч Андрэй Андр.
Марчанка Дзяніс Васільевіч
Марчык Віктар
Машчэнская Алена
Мілевіч Ларыса Васільеўна
Мінчук Уладзімір
Міхайлоўская Анастасія Вяч.
Міхайлоўская Таццяна Васіл.
Міцкевіч Марыя Міхайлаўна
Мішкевіч Аліна Міхайлаўна
Мудроў Алег Л.
Муха Анатоль Міхайлавіч
Муха Барыс Ібрагімавіч
Мыслівец Андрэй Аляксандр.
Мялешка Аляксей Аляксеевіч
Мясніковіч Юры
Навумец Яўген Часлававіч
Наліўка Лідзія Вячаславаўна
Неткачава Валянціна Алякс.
Нікіценка Мікалай
Оліна Эла Ігараўна
Пабірушка Надзея
Палівода Святаслаў Мікітавіч
Панамарова Жанна Сцяпан.
Папова Варвара Сяргееўна
Пархімчык Святлана Мікал
Патапчук Леанід
Паўловіч Іван Іванавіч
Пацёмкін Уладзімір Леанідавіч
Петухоў Алесь
Піваварчык Сяргей Аркадз.
Плевака Валеры Сцяпанавіч
Плотнікаў Уладзімір
Правалінскі Віталь
Пухоўская Юлія Аляксандр.
Пучынскі Уладзімір Станісл.
Пушкін Аляксандр Мікал.
Пшэннік Тамара Францаўна
Пятровіч Ева Іванаўна
Рагачэўская Валянціна Пятр.
Раманава Юльяна Ігараўна
Раманчык Надзея Дзмітрыеўна
Рамук Андрэй
Рачко Віктар
Русакевіч Юры Яўгенавіч
Руснак Ганна Вітальеўна
Рынкевіч В. У.
Рысявец Уладзімір Аляксанд.
Рэйда Святлана Юр'еўна
Сабаленка Аляксандр Міхайл.
Сабінін Сяргей Юр'евіч
Савіцкая Ірына Канстанцінаўна
Савосценка Ігар
Садаўнічы Дзмітры В.
Садоўская Анастасія Раман.
Сак Міхал Міхалавіч
Салодкіна Святлана
Самайлюк Тамара Андрэеўна
Самусенка Кім Андрэевіч
Санько Валер Аляксеевіч
Сармант Сяргей Аляксандр.
Саўко Марыя
Сафонава Вольга Віктараўна
Сека Васіль
Сенькавец Ганна
Сідарэвіч Наталля
Скрыган Ігар Генадзевіч
Скрыпаль Аляксей Сяргеевіч
Смаленкін Іван Анатольевіч
Сом Алена Уладзіміраўна
Стаціўка Алесь Канстанцінавіч
Сташкевіч Яна Ігараўна
Субоцін Аляксандр Аляксан.
Супрановіч Віталь Канстанц.
Сушчэўскі Алесь Аляксандр.
Сцефановіч Здзіслаў Уладзісл.
Сяцэнка Наталля Валер'еўна
Сырапеня Пётр Андрэевіч
Сямашка Я. І.
Торап Аляксандр Валер'евіч
Тоўсцік Святлана Сяргееўна
Трафімчык Дамініка Сярг.
Трубач Таццяна Георгіеўна
Трусаў Алег Анатольевіч
Труханові Ларыса
Труханові Леанід Мікалаевіч
Тупянец Дзмітры Валянцінавіч
Туронак Людміла Данатаўна
Тэжык Ірына
Фарнэль Кастусь Іванавіч
Федуковіч Васіль
Філімонава Іна Уладзіміраўна
Філіпчык Васіль Іванавіч
Халіпскі Рыгор Веніямінавіч
Хітрун Алесь Часлававіч
Царук Вольга Іванаўна
Цвірка Іван Яўгенавіч
Цімашэвіч Уладзімір Максім.
Цыганкова Анастасія Дзмітр.
Чабанава Таццяна Аляксандр.
Чарнякоўскі Віталь Радзівон.
Чэчат Алесь Віктаравіч
Шаўчук Ігар Іванавіч
Шкель Ульяна Андрэеўна
Шумскі Андрэй Мікалаевіч
Шчэрбіч Мікола Аляксандр.
Шыла Святлана Іванаўна
Шымко Лілея Канстанцінаўна
Юч Галіна
Ярмоленка Тамара Іосіфаўна
Ясюк Іван Вітальевіч
Яцкоўская Святлана Анатол.

## 75-годдзю ўтварэнню Гарадзенскай вобласці прысвячаецца...



З пачатку бягучага года ва ўсіх бібліятэчных установах Карэліччыны на пастаяннай аснове працуюць кніжныя выставы, выставы-інсталяцыі, фотазоны, краязнаўчыя куткі, матэрыялы якіх пастаянна папаўняюцца і абнаўляюцца,тым самым праслаўляючы сваю малую радзіму - 20 верасня 2019 года Гарадзенскай вобласці спаўняецца - 75 год.

У рамках абласной акцыі "Равеснікі вобласці", якая прысвячаецца яе 75-годдзю, у Цырынскай СБ адбылася сустрэча з Аляксяевіч Ірынай Юльянаўнай, якая аднагодка міламу сэрцу кутку, і якой споўнілася 75 гадоў.

За салодкім сталом у гонар юбіляркі Ірына Юльянаўна доўга дзялілася ўспамінамі свайго жыцця: аб сваёй нялёгкай долі, аб працы ў родным калгасе, аб самым галоўным багацці - дзецях (іх у яе пяцёра; унукаў- 9; праўнукаў- 8). Расказала і аб сваіх захапленнях - вырошчванні кветак (увесь двор у кветках), спевах (і ў клубе, і ў бібліятэцы, і ў царкоўным хоры), шыцці, вязанні, вышыўцы і асабіста аб гатаванні страў. А таксама прымала віншаванні ад сельвыканкама, сябровак і ўдзельніц аматарскага аб'яднання "Надзея", якія пажадалі ёй моцнага здароўя, доўгіх гадоў і дабрабыту.

***Наталля Казарэз**, метадыст ДУК "Карэліцкая раённая бібліятэка".*

# Выстава

17 ліпеня 2019 года ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі (Палац мастацтва) адчынілася выстава жывапісу беларускага мастака Анатоля Отчыка.

Творчасць Анатоля добра вядома ў культурнай прасторы Беларусі і за мяжой. Ён прадстаўнік пакалення аўтараў, чый прыход ў прафесійнае мастацтва ў1980-я гады адзначыўся з'яўленнем сапраўднай поліфаніі наватарскіх стылістык, мастацкай мовы і разнастайнасцю смелых ідэй.




Яшчэ ў пачатку творчага шляху Анатоль Отчык дакладна вызначыў для сябе меру ўзаемадзеяння рэалістычнага пісьма з шэрагам знакавых вобразаў і сімвалаў, што арганічна суадносіцца з тэндэнцыямі, якія адбываліся ў беларускім мастацтве і на сучасным этапе. Менавіта імкненне да філасафічнасці і аксіялагічнага напаўнення кожнай работы характэрна для творчасці гэтага майстра... Выстава "Вымярэнне" знаёміць гледачоў з карцінамі, выкананымі Анатолем Отчыкам пераважна за апошнія 20 гадоў.

Мастак нарадзіўся 7 ліпеня 1949 года ў вёсцы Шыічы Гомельскай вобласці. Скончыў Пензенскую мастацкую вучэльню (1972). Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут (1977). Вучыўся ў Л. Скарабагатава, Э. Іадэніса, А. Хадыкі, Удзельнік мастацкіх выставак з 1978 года. Член Беларускага саюза мастакоў з 1986 года. Працуе ў плакаце, жывапісе, афармленні архітэктурнага асяроддзя. Творы знаходзяцца ў нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, фондах БСМ, цэнтры сучасных мастацтваў, Гомельскім краязнаўчым музеі, а таксама ў прыватных калекцыях у Беларусі і па за яе межамі...

Асабіста мне спадабаліся карціны: "Непрытульныя рытмы", "Зімовы дзень", "Стракатыя абклокі", "Перад дальняй дарогай", "Абуджэнне", "Маладыя крылы" і іншыя.

***Аляксей Шалахоўскі**, гісторык культуры.*





# "Эпоха Агінскага: аднаўленне памяці"

24 ліпеня ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы адбылася прэзентацыя фотавыстаўкі "Эпоха Агінскага: аднаўленне памяці" вядомага менскага фотамастака Міхаіла Крыжаноўскага. Творчы фотапраект прысвечаны 254-годдзю з дня нараджэння знакамітага палітычнага дзеяча, дыпламата, кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага, які жыў на тэрыторыі Беларусі ў XVIII-XIX стагоддзях.

Фотавыстава майстра такога ўзроўню арганізавана ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы ўпершыню і стала сапраўднай падзеяй, якая зацікавіла як чытачоў бібліятэкі, так і яе гасцей.

Міхаіл Крыжаноўскі - вядомы ў Беларусі майстар партрэтных, рэпартажных і мастацкіх здымкаў, удзельнік міжнародных і гарадскіх фотавыстаў і конкурсаў.

У прадстаўленым цыкле фотаздымкаў прысутнічаюць сюжэты, прысвечаныя актуальным пытанням захавання культурнага асяроддзя, паказаны стан палацавага ансамбля "Паўночныя Афіны", яго мінулае і сучаснасць. На фатаграфіях можна ўбачыць не толькі характэра беларускай прыроды, але і таленавітых, шчырых людзей гэтага краю, якія вызначаюцца адметнымі характарамі і адвечнымі думкамі пра будучыню сваёй краіны, людзей, далучаных да адраджэння ўнікальнай культурнай спадчыны, створанай родам Агінскіх.

Жыццё таленавітага і рознабаковага чалавека заўсёды цікавіла грамадства. Лёс Міхала Клеафаса Агінскага звязаны з такімі асобамі, як Напалеон I, імператар Аляксандр, імператрыца Кацярына, Тадэвуш Касцюшка і многіх іншых.

Упрыгожылі мерапрыемства музычнымі і творчымі нумарамі запрошаныя на фотавыставу госці. Сярод іх неабходна адзначыць Ірыну Цуканаву (спявачку, мастацкага кіраўніка музычнага аб'яднання "Галактыка", дзіцячую пісьменніцу) і Вольгу Воінскую (кампазітара, музыканта, выкладчыка).

Цікавасць прысутных выклікаў і прапанаваны да прагляду фільм пра музей-сядзібу М.К. Агінскага ў Залессі, куды кампазітар пасяліўся ў 1802 годзе, вярнуўшыся сюды з далёкіх замежных вандровак, і дзе ён напісаў свой знакаміты ля-мінорны паланез "Развітанне з Радзімай".







Выстава рознабаковая, яскравая, запамінальная. Работы выкананы ў розных тэхніках і накірунках: фотарэпартаж, мастацкае фота, кампутарная графіка, інсталяцыя, жывапіс. Наведвальнікі ўбачылі не толькі прыгажосць беларускай прыроды, але і партрэты людзей, якія жывуць у гэтым краі.

Тэхніка прадстаўленых на выставе фатаграфій спалучае ў сабе жывапісныя і графічныя магчымасці: лёгкасць і імправізацыйнасць малюнка з каларыстычным багаццем, якое не саступае магчымасці традыцыйных тэхнік выяўленчага мастацтва.

Уменне фотамайстра адшукаць, адкрыць і адлюстраваць у кадры самае патаемнае, няўлоўнае і індывідуальнае надаюць непаўторнасць кожнай рабоце.



***Метадыст Лідскай РБ імя Я. Купалы.***

*Навіны Германіі*

# Новы амбасадар Германіі запісаў прывітанне на беларускай мове



Манфрэд Хутарэр і яго жонка павіталі беларусаў.

Новы амбасадар Германіі ў Беларусі Манфрэд Хутарэр, які прыехаў у Менск надоечы, запісаў відэазварот да беларусаў, у якім прызнаўся, што даўно хацеў працаваць у нашай краіне.

Відэазварот, апублікаваны на старонцы "Фэйсбуку" пасольства, амбасадар запісаў разам са сваёй жонкай на рускай і беларускай мовах.

- Дорогие друзья, моя жена и я рады быть в Беларуси, где в ближайшие годы я буду работать в качестве посла. Я очень хотел приехать сюда и даже немного выучил белорусский язык, - сказаў Манфрэд Хутарэр. - Я, як пасол, прыкладу ўсе сілы для таго, каб адносіны паміж нашымі краінамі і далей развіваліся ў пазітыўным ключы. Мы рады знаходжанню ў Беларусі.

- Мы ўжо шмат разоў наведвалі Беларусь і былі ўражаныя тым, якая разнастайная і прыгожая ваша краіна, - дадала жонка амбасадара.

# "Белавія" адкрыла рэгулярныя рэйсы ў Мюнхен

"Белавія" адкрыла рэгулярныя рэйсы ў Мюнхен. Як паведамілі ў кампаніі, на першы рэйс да Мюнхена купілі квіткі 75 пасажыраў, назад у Менск - 82. Палёты будуць ажыццяўляцца чатыры разы на тыдзень: па панядзелках, чацвяргах, пятніцах і нядзелях з вылетам з Менска ў 12.30 і прыбыццём у міжнародны аэрапорт Мюнхен імя Франца-Ёзэфа Штраўса ў 13.35. Зваротны рэйс з Мюнхена ў 14.15 (па мясцовым часе) па панядзелках, чацвяргах, пятніцах і нядзелях з прыбыццём у нацыянальны аэрапорт Менск у 17.15.

*"Адкрыццё рэйса ў Мюнхен стала сапраўды знакавай падзеяй, да якой мы рыхтаваліся на працягу некалькіх гадоў,* - цытуе прэс-служба генеральнага дырэктара ААТ "Авіякампанія "Белавія" Анатоля Гусарава. - *Авіяцыйныя ўлады Беларусі і Германіі вясной гэтага года дасягнулі пагаднення аб павелічэнні частаты і маршрутаў палётаў для авіяперавозчыкаў дзвюх дзяржаў. Дзякуючы гэтаму рашэнню "Белавія" змагла дадаць гэты новы напрамак у сваю маршрутную сетку".*

- Мы разлічваем, што нашы краіны стануць бліжэйшымі ва ўсіх адносінах: для развіцця дзелавых кантактаў, міжкультурнага дыялогу, умацавання гандлёва-эканамічных узаемаадносін. Для нашых гасцей аэрапорт Менска можа стаць зручным міжнародным вузлавым портам для палётаў у іншыя краіны. Расклад палё-





таў складзены так, каб пасажыры маглі камфортна ажыццяўляць перасадку на рэйсы, якія іх цікавяць. Таксама беларусы змогуць пазнаёміцца з культурай аднаго з самых цікавых гарадоў Еўропы, што будзе спрыяць культурнай інтэграцыі Менска і Мюнхена, - адзначыў Гусараў.

*"Мы з радасцю сустракаем авіякампанію "Белавія" ў міжнародным аэрапорце Мюнхена. Гэты маршрут ужо даўно запатрабаваны, бо Менск заўсёды быў адным з самых папулярных кірункаў у Мюнхене"*, - адзначыў у сваю чаргу гендырэктар аэрапорта Мюнхен Міхаэль Керклох, паведамляе прэс-служба "Белавія".

Палёты ў Мюнхен ажыццяўляюцца на паветраных караблях Embraer-175. Час у дарозе складае каля дзвюх гадзін. Кошт авіябілетаў у адзін бок складае ад 115 еўра, туды-назад - ад 255 еўра. Міжнародны аэрапорт Мюнхен стаў чацвёртым аэрапортам у Германіі ў маршрутнай сетцы авіякампаніі "Белавія". На гэты момант беларускі перавозчык выконвае рэгулярныя рэйсы ў аэрапорты Берліна, Франкфурта і Гановера.

***belapan.by.***





# Вандроўка па мясцінах роду Манюшкаў

20 ліпеня група сяброў ТБМ імя Ф. Скарыны здзейсніла падарожжа па мясцінах, звязаных з месцам нараджэння і маладых гадоў Станіслава Манюшкі. Вандроўка была прысвечана 30-годдзю ТБМ і 200-годдзю з дня нараджэння родапачынальніка беларускай і польскай оперы.

Сябры ТБМ наведалі мястэчкі Алесіна, Шыпяны, Малыя Ляды, Волму, Смілавічы.





Дырыжор і музыказнаўца, лаўрэат міжнародных конкурсаў Аляксей Фралоў пазнаёміў вандроўнікаў з гісторыяй шляхецкага роду Манюшкаў, распавёў пра перапляценні лёсаў, духоўныя і культурныя традыцыі і гістарычны кантэкст, у якім развівалася творчасць кампазітара. Удзельнікі вандроўкі даведаліся пра малавядомыя факты з гісторыі роду Манюшкаў і пачулі рамантычную гісторыю кахання Станіслава і Аляксандры Мюлер.

Разважаючы над многімі фактамі, можна было заўважыць, як хрысціянская вера мацавала род Манюшкаў, гартуючы патрыятычны дух ВКЛ і Рэчы Паспалітай, прыносячы багаты плён у кожным з пакаленняў: плён шматдзетнасці, плён добрага дogляду за зямлёй, міласцівага стаўлення да сялян, клопату пра народную асвету і адукацыю.

Дзед слыннага творцы Станіслаў Манюшка-старэйшы атрымаў маёнткі пры падзеле ўладанняў гетмана ВКЛ Міхала Казіміра Агінскага. Ён быў суддзём Вялікага Княства Літоўскага, ажаніўся позна, у 51 год, з Евай Вайніловіч. Яго маёмасць налічвала мільён злотых, і ён быў сапраўдным гаспадаром. У яго нарадзілася 16 дзяцей, да сталага ўзросту дажылі толькі 10, (6 сыноў і 4 дачкі), апошняя дзяўчынка нарадзілася, калі яму было 72 гады. Большасць з яго сыноў скончылі Віленскі ўніверсітэт і атрымалі званні дактароў права. Акрамя бацькі Манюшкі - Часлава. Ён не паспеў гэтага зрабіць, бо пачалася Напалеонаўская кампанія і ўсе сыны Станіслава Манюшкі выступілі супраць расійскага царскага войска на баку Напалеона за адраджэнне Рэчы Паспалітай. Часлаў Манюшка быў таленавітым чалавекам, захавалася 12 альбомаў яго малюнкаў. Ён служыў пры штабе і быў ад'ютантам маршалаў Мюрата і Даву, даслужыўся да чына капітана.

Дамінік Манюшка ў сваіх уладаннях у Радкаўшчыне адмяніў прыгоннае права яшчэ ў 1843 годзе, падзяліўшы зямлю паміж сялянамі. Ён пабудаваў ім хаты, увёў незалежны суд, адчыніў бясплатныя школы для дзяцей. У школах не толькі вучылі чытаць і пісаць, але і выкладалі геаметрыю, чарчэнне і пчалярства, туды запрашаліся выкладчыкі з Парыжскага і Пражскага ўніверсітэтаў, выкарыстоўвалася сістэма вядомых еўрапейскіх педагогаў Джозафа Ланкастара і Ёгана Песталоцы.

У Алесіне засталіся часткі каменнага манумента Дамініку Манюшку, абнесеныя плотам. Ля іх вандроўнікі сфатаграфаваліся на памяць.

Пасля вайны 1812 года ўсе браты Манюшкі вярнуліся ў Смілавічы жывыя і здаровыя, была падзелена зямля, якая належала бацьку, і Чаславу дастаўся Убель. З сям'і Манюшкаў выйшлі многія вучоныя і асветнікі.

Сядзіба, дзе нарадзіўся будучы кампазітар, не захавалася. Там зараз знаходзіцца санаторый "Волма". Аляксей Фралоў спыніўся з групай ля велічэзнай таполі, побач з якой стаяў маёнтак Манюшкаў. Верагодна, гэта тая таполя, якую адлюстраваў на малюнку Напалеон Орда.

Казімір Манюшка, які атрымаў у спадчыну Смілавіцкі палац, быў батанікам, ён выводзіў новыя гатункі раслін, пабудаваў цяпліцы, заклаў вакол сядзібы парк, які захоўваецца да сённяшняга дня.

Часлаў у 1818 годзе ажаніўся з Альжбетай Маджарскай. Яна паходзіла з вядомага роду, прадстаўнікі якога заклалі ў Слуцку фабрыку, дзе ткаліся знакамітыя слуцкія паясы.Тэхніку ткацтва прывёз Ян Маджарскі.

5 траўня 1819 года маленькі хлопчык, які будзе насіць імя Станіслаў, нараджаўся з цяжкасцю. Было адчынена акно, каб матулі было лягчэй дыхаць. Праз яго ў пакой уляцела ластаўка, якая звіла гняздо паблізу. Яна вывела птушанят і цэлае лета лётала каля Убельскай сядзібы. Яна засталася ва ўспамінах членаў сям'і як сімвал прынесенага жыцця і таленту кампазітара. У памяць аб здарэнні ў нашы дні запачаткаваны фестываль, названы "Убельская ластаўка".



На пяты дзень маленькі Станіслаў быў ахрышчаны ў Смілавіцкім парафіяльным касцёле.





Маці першай заўважыла талент хлопчыка і адвезла яго ў Варшаву, дзе ён займаўся музыкай у Станіслава Аўгуста Фрэера. Дзеці вучыліся ў школе пры піярскім манастыры. Праз тры гады, скончыўшы пачатковую школу, Станіслаў з бацькамі вярнуўся на Беларусь. У Менску юнак займаўся ў мужчынскай гімназіі, але яе не скончыў, таму што пачалося паўстанне 1830-31 гадоў, аднак працягваў займацца прыватна са сваімі дзядзькамі Казімірам і Дамінікам. Станіслаў вырас высокаадукаваным чалавекам, акрамя польскай і расійскай, ён ведаў яшчэ англійскую, французскую і італьянскую мовы, меў літаратурны дар, які выяўляецца ў яго пісьмах. Музыкай ён займаўся ў Дамініка Стэфановіча. Дом Манюшкаў у Менску быў цэнтрам культурнага жыцця. Юнак вырашыў стаць кампазітарам, каб пісаць творы, у якіх выступалі б акцёры ў нацыянальных касцюмах.

У Вільні ва ўзросце 17 гадоў Манюшка пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Аляксандрай Мюлер, якой было 16 гадоў. Маці нявесты Марыя Мюлер падтрымала дзяцей, яна дала згоду на шлюб у тым выпадку, калі Станіслаў атрымае адукацыю. І тады таленавіты юнак адправіўся ў Берлін у музычную акадэмію. Там ён дэбютаваў як кампазітар…

У Вільні прагучаў першы духоўны твор кампазітара "Вострабрамскія літаніі", прысвечаны абразу Маці Божай Вострабрамскай. У Вільні Станіслава чакала Аляксандра. Яны абвянчаліся ў касцёле Пана Езуса. За 18 гадоў у сям'і Манюшкаў нарадзілася 10 дзяцей, да сталага ўзросту дажылі 7, самым вядомым з іх быў малодшы сын Ян, які стаў прафесарам Пецярбурскай мастацкай акадэміі.

У Смілавічах Аляксей Фралоў запрасіў зацікаўленых вандроўнікаў наведаць музычную гасцёўню, створаную ў 2017 годзе пры падрымцы праекта ЕС-ПРААН па садзейнічанні культурнаму развіццю рэгіёнаў.

- Станіслаў Манюшка быў кампазітарам еўрапейскага ўзроўню. Яго імя можна было б назваць сярод такіх, як Беджых Сметана, Антанін Леапольд Дворжак,- адзначыў спадар Аляксей. - У Варшаве сёлета адбыліся вялікія святкаванні. У Вялікім тэатры адбыўся прыём. Прэзідэнт Анджэй Дуда ўсклаў кошык з кветкамі на магіле кампазітара. Здзейснілася падарожжа нашай творчай інтэлігенцыі па замежных мясцінах Манюшкі, трох ключавых кропках: Вільні- Берліне- Варшаве.

Мы рабілі з аркестрам "Capella Akademia" і зоркамі беларускай оперы на пляцы Верхняга горада ля ратушы канцэрт у час правядзення Дня польскай культуры. Праводзілі публічны гарадскі сімфанічны канцэрт, прысвечаны беларускаму і польскаму класіку. Адбыўся пленэр з удзе-





лам Беларускага саюза мастакоў. Шмат асобаў заангажаваны ў святкаванне юбілею і ўспрымаюць яго актуальным для сябе. У Вільні праходзіла канферэнцыя пад эгідай ЮНЭСКА.

У Смілавічах даследчую працу па гісторыі роду Манюшкаў распачаў у 1969 годзе настаўнік геаграфіі, дырэктар мясцовай сярэдняй школы Васіль Васільевіч Несціаровіч. Ён усталяваў навуковыя кантакты з гісторыкамі Польшчы і назапасіў грунтоўны матэрыял, звязаны з сядзібай бацькоўй Манюшкі ў Убелі, з гісторыяй яго роду. Адзіны ў свеце музей Манюшкі знаходзіўся ў пасёлку Азёрны ў памяшканні школы, сёлета ён пераехаў у новы будынак - музычную гасцёўню ў Смілавічах.

Даследаванні працягвае дачка В.В. Несцяровіча Ірына Серада, якая працуе ў музычнай гасцёўні экскурсаводам. Яна знаёміць наведвальнікаў са шматлікімі фотаздымкамі, экспанатамі, якія распавядаюць пра жыццё і творчасць кампазітара-рамантыка, яго сям'ю і сяброў. Тут можна паслухаць фрагменты з опер кампазітара.

Палац Манюшкаў у Смілавічах выкуплены ў прыватную уласнасць, а частка яго парэштакаў закансервавана.

Праграма вандроўкі была вельмі змястоўнай. Падарожнікі і актывісты ТБМ па дарозе таксама здзейснілі экскурсію ў праваслаўны Свята-Дабравешчанскі манастыр у Малых Лядах, сродкі на будаўніцтва якога ахвяравалі Ігнат Завіша і яго жонка Марцыбэла Агінская. У XVIII стагоддзі гэта быў манастыр базыльянаў.

Тэбээмаўцы наведалі музей "Прастора Хайма Суціна" і дзяцічы арт-цэнтр у Смілавічах, дзе ўбачылі шмат прыкладаў беражлівага і трапяткога стаўлення да гістарычнай і культурнай спадчыны.

***Эла Дзвінская,***
*фота аўтара.*

1. Група тэбээмаўцаў на чале з Аленай Анісім са сцягам, фота А. Давідовіча;

2. Сябры ТБМ у вандроўцы;

3. Ля манумента Даменіку Манюшку;

4. Аляксей Фралоў у музычнай гасцёўні;

5. Ірына Серада;

6. Бюст С. Манюшкі.

*Ужо пасля напісання артыкула пра апошняга беларускага базыльяніна а. Кірыла Летаўта (гл: Наша слова. № 27 (1438), 4 ліпеня 2019.), добрыя людзі падказалі мне пашукаць інфармацыю пра сяброў манаха - людзей, якія яго прытулілі і схавалі ў Вільні, а потым вывезлі ў Львоў. Скарыстаўся парадай, і вось што атрымалася.*

## *Леанід Лаўрэш*

# Яшчэ раз пра Летаўта

Пачнём з Казіміра Максевіча, пра якога вядома вельмі няшмат. Казімір Максевіч сын Станіслава (1813-1889), Ян Пазняк называе яго суддзём, і гэта цалкам магчыма, але ён меў годнасць доктара медыцыны. У 1887 г. атрымаў чын надворнага дарадцы. Меў сына Дамініка (1865-1829), пра якога а. Летаўту нагадалі перад смерцю. У 1913 г. Дамінік Максевіч быў сябрам Віленскага музычнага таварыства "Лютня" [1].

з беларускім рэвалюцыянерам і паэтам, сынам уніяцкага святара Францішкам Савічам.

Чатыры з шасці братоў Рэнігераў пакінулі свае запісы ў "Альбоме" Арцёма Вярыгі-Дарэўскага. Сярод іх быў і вядомы рэвалюцыянер Аніцэт Рэнігер (Рэніер), які ішоў па адной справе з лідзянінам Бальтазарам Калясінскім і быў сасланы ў Сібір. Сябар манаха Летаўта - Мамерт Дэзідэрый нарадзіўся 13.03.1814 г. Менавіта ён пакінуў у альбоме Вярыгі-Дарэўскага свой беларускамоўны верш.

Верагодна, з Рэнігерамі а. Кірыл пазнаёміўся праз святара Юзафа Рэнігера, аднаго з братоў.





*Казімір Максевіч. Яго сын Дамінік*

У беларускай навуковай літаратуры браты Рэнігер таксама вядомы як Рэніер. Прафесар Хаўстовіч пісаў, што прозвішча ***Рэніер*** сустракаецца толькі ў некаторых дакументах, а на віленскіх могілках Росы, на помніку брата Мамерта - Аніцэта напісана: *"Reniger Anicet Dr medycyny, czlonek Wilenskiego Towarzystwa Lekarskiego i innych (1805-1877)"*. Рэнігерамі браты запісаны і ў спісах выпускнікоў Першай віленскай гімназіі[2].

Яшчэ Генадзь Кісялёў пісаў: *"Рэніер Мамерт - доктар, сябар беларускага рэвалюцыянера і паэта Ф. Савіча. У 40-я гады разам з братам Аніцэтам абвінавачваўся ў сувязях з эміграцыяй і рэвалюцыйнай прапагандзе. Пісаў па-беларуску"* [3]. Як бачым, Мамерт Рэнігер сябраваў

Юзаф Рэнігер атрымаў пачаткову адукацыю ў Слуцкай і Віленскай гімназіях і ў 1842 г. паступіў у Віленскую семінарыю. Пасля рукапалажэння ў 1845 г. быў прызначаны вікарыем Слонімскага касцёла, а ў 1847 г. пераведзены на аналагічную пасаду ў мястэчка Жырмуны, у 1852 г. - у Магілёўскі архікатэдральны касцёл. Там Юзаф Рэнігер з 1858 г. выконваў абавязкі прэфекта, а ў 1860 г. узначаліў дэканат[5]. Верагодна, ён пазнаёміўся і пасябраваў са старым базыльянінам і дапамагаў а. Летаўту, калі той быў на пакутах у Расіі.

Акрамя Вярыгі-Дарэўскага, Мамерт Рэнігер сябраваў і перапісваўся з Адамам Кіркорам. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч у лісце да Яна Карловіча ад 16 верасня 1868 г. пісаў: *"Пан будзе вельмі рады знаёмству з Вішнеўскім, ... асабліва наш супольны прыяцель Мамерт Рэніер. Яны могуць даць пану матэрыялы для народнай літаратуры. У Рэніера, пан, можа, і Купалу знойдзеш"* [6]. Таксама Дунін-Марцінкевіч адзначаў, што Мамерт Рэнігер меў шмат беларускамоўных твораў свайго часу[7]. Як мы ведаем, архіў Мамерта Рэнігера, які захоўваўся "пад страхой" яго дома, знік[8], таму, верагодна, зніклі і ўнікальныя тэксты беларускай літаратуры.

Цікавы ўспамін пра Мамерта Рэнігера пакінуў віленскі доктар Людвік Чаркоўскі, ён пісаў: *"Дарога з Зарэчча на Антокаль ішла ў адным месцы паміж двума пясчанымі пагоркамі. ... Антокаль пачынаўся за мостам на Вілейцы і ад парома на Віліі. ... Палац Слушкаў служыў вязніцай для крымінальных злачынцаў, прыгавораных для прымусовых работ. ... Толькі вулачка аддзяляла былы палац Слушкаў ад вялікай маёмасці Рэнігераў. Іх пляц спускаўся да самай Віліі і быў густа забудаваны дванаццацю невялікімі аднапавярховымі (адзін з іх быў з паддашкам - як быццам двухпавярховы) драўлянымі дамкамі. Выглядалі яны досыць маляўніча і арыгінальна. У адным з іх жыў сам гаспадар, доктар Мамерт Рэнігер, надта характэрная постаць, чалавек вельмі шляхетны і вялікі патрыёт. Калі пазнаёміўся з ім у 1871 ці 1872 г., гэта быў яшчэ дзёрзка трымаўшы сябе стары з вялікай, спадаючай на грудзі барадой, сівымі спадаючымі бровамі, меў ён прыгожыя мужчынскія рысы. Ці меў ён валасы, а калі меў, дык якія - не ведаю, бо заўсёды бачыў яго ў фесцы. Бачыў яго на вялізным фотаздымку Маляшэўскага ў Варшаве ў 1875 г. Стэнд з некалькімі маленькімі фатаграфіямі і фатаграфіямі Маляшэўскага вісеў на глухой сцяне з боку Саскай плошчы насупраць Еўрапейскага гатэля, і многія людзі спыняліся, каб паглядзець на Ягамосця ў фесцы. Ён выглядаў незвычайна, як сын усходу"* [9].

Менавіта ў гэтых дамах на Антоклі жыў а. Летаўт.

Нейкі час Мамерт Рэнігер хаваў а. Кірыла ў сябе на вёсцы. Вядома, што Рэнігеры мелі маёнтак Захарышкі каля Яшуноў. Там і жыў манах, удалечыні ад вачэй рускіх уладаў. Цікава, што па адной з магчымых версій, бацька Мамерата - Фелікс Рэнігер працаваў у Яшунах па дамове з Міхалам Балінскім.



***Той самы партрэт доктара Мамерта Рэнігера ў фесцы***

Недарэмна нашчадкі Мамерта Рэнігера падтрымлівалі сяброўства з Янам Пазняком, любоў і павага да беларушчыны ў гэтай сям'і з'яўлялася добрай традыцыяй. Сын Мамерта - Авіт Рэнігер (1853-1907), закончыў Медыка-хірургічную акадэмію ў Пецярбургу, у 1883 г. стаў доктарам медыцыны і працаваў лекарам у Вільні. Разам з жонкай Камілай з Бейнаровічаў, меў двух дачок Яніну (1892-1956) і Ірэну (1899-1987). З некім з іх і меў справу Ян Пазняк, які расказаў нам пра апошняга базыльяніна Літвы[10].

І трэцяй асобай, з якой сябраваў і ўзгадваў перад смерцю стары манах, быў ксёндз Стэфан Дзянісевіч (Данісевіч). Лёс Стэфана Дзянісевіч (Данісевіча, 1836-1913) звязаны з Магілёўшчынай. Нарадзіўся ў Чарэйскай парафіі на Магілёўшчыне, скончыў Менскую духоўную семінарыю (1859 г.) і доўгі час працаваў у парафіях Воршы і Магілёва. Аднак, як пісаў ксёндз Францішак Будзька, *"ня доўга тутака пабыў, бо на другі год востра выступіў проціў навукі рэлігіі па-расейску і сам адказаўся ад капелянства"* [11]. Потым, да 1872 г. служыў у Смаленску. Верагодна падчас гэтай працы пазнаёміўся з а. Летаўтам і дапамагаў яму. З 1895 г. стаў членам Магілёўскай архідыяцэзіі, і ўжо адміністратар Магілёўскай архідыяцэзіі, прэлат Дзянісевіч выдае ў 1906 г. ў Пецярбургу "Элементар для добрых дзетак каталікоў", напісаны на беларускай мове[12]. У 1908 г. атрымаў годнасць біскупа.

Беларускі біскуп Данісевіч з'яўляўся прыхільнікам выкарыстання беларускай мовы ў рэлігійнай працы і нават сам рэдагаваў беларускія рэлігійныя кнігі. Захочваў да гэтага духавенства і сам часта прамаўляў па-беларуску[13], быў ініцыятарам выдання беларускай каталіцкай літаратуры і дапамагаў маладым беларускім ксяндзам.

Не можа быць выпадковым тое, што ўсе сябры апошняга беларускага базыльяніна не толькі прыхільна адносіліся да беларушчыны, але і ў меру сваіх сіл спрыялі яе развіццю. Гэтыя людзі, усе разам, пранеслі паходню нашай культуры праз XIX ст. і перадалі яе такім беларусам/ як Ян Пазняк. Менавіта яны зрабілі не толькі магчымым, але і безальтэрнатыўным адраджэнне беларускай культуры і дзяржавы на пачатку XX ст.

[1] Sprawozdanie Wilenskiego Towarzystwa "Lutnia" za rok 1913-1914. Wilno, 1915. S. 30.

[2] Хаўстовіч Мікола. Тэкст і кантэкст // Acta Albaruthenica. 2015. Т. 15. С. 246.

[3] Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. / Укл. Г.В. Кісялёў. Мінск: Навука і тэхніка, 1977. С. 236.

[4] Лаўрэш Леанід. Бальтазар Калясінскі, лідскі паўстанец і сябар Тараса Шаўчэнкі // Наша слова. № 24 (1435), 12 чэрвеня 2019.; № 25 (1436), 19 чэрвеня 2019.

[5] Антановіч З. В. Змены ў асабістым складзе парафіяльнага духавенства Магілёўскай архідыяцэзіі пасля паўстання 1863-1864 гг. (паводле фармулярных спісаў рымска-каталіцкага духавенства) // Крыніцазнаўства і спецыяльныя гістарычныя дысцыпліны. Вып. 10. Мінск, 2015. С. 171.

[6] Цыт. па: Хаўстовіч Мікола. Тэкст і кантэкст. С. 244-245.

[7] Хаўстовіч Мікола. Тэкст і кантэкст. С. 243-251.

[8] Pozniak Jan. Ostatni bazyljanin litewski // Preglad Wilenski. № 21-22, 20 grudnia 1932. S. 11.

[9] Czarkowski Ludwik. Wilno w latach 1867-1875 (ze wspomnien osobistych) // Pamietnik Wilenskiego Towarzystwa Lekarskiego 1929, R. 5 z. 4. Wilno, 1929. S. 29-30.

[10] Хаўстовіч Мікола. Тэкст і кантэкст. С. 246 - 247.

[11] Бачышча Ю.А. Жыццё і дзейнасць адміністратара Магілёўскай архідыяцэзіі Сцяпана Данісевіча // Весці БДПУ. 2003. №1 (35). С. 219-224.

[12] Stankiewicz A. Rodnaja mowa u swiatyniach. Wilnia. 1929. C. 74.

[13] Туронак Юры. Мадэрнай гісторыя Беларусі. Вільня, 2006. С. 451.



№ 31 (1442) 31 ЛІПЕНЯ 2019 г. Наша слова

*Яўген Гучок*

# Як Жана д'Арк...

## паэма-эсэ

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

* * *

Лёс беларускай мовы і літаратуры
Падзялілі настаўнікі іх,
Сведчаннем таму - і Курапаты.

* * *

Душа беларуская
Без беларускай мовы і літаратуры -
Недасоленая душа.

* * *

Толькі цемрашал
Штосьці адмоўнае можа дазволіць сабе
У адрас настаўніка-беларуса.

* * *

Настаўнік, калі супраць цябе і дзяржава,
Але і ў тых стасунках-умовах
Выстаяць ты павінен.

* * *

Беларушчына - не сацыяльная маліна,
Таму там нялёгка, але і пачэсна
Настаўніку-патрыёту.

* * *

Галоўны лекар душы беларускай
І настаўнік беларускай мовы
І літаратуры.

* * *

Чаго бацькі не дадаюць
У прыязнасць да Беларусі дзецям,
Настаўнік даць любоў павінен.

* * *

Беларускі настаўнік
У Беларусі, часам, - бы бежанец,
Але ён не сыходзіць з дому.

* * *

Гонар за родную мову і літаратуру -
Вось галоўная ўзнагарода
Для настаўніка-патрыёта.

* * *

Не курыце, не піце, не будзьце губашлёпамі,
Беражыце душу беларускую
Усім нам унушае сусед наш - настаўнік.

* * *

Калі прыстаў ты да млявасці-абыякавасці,
Звяртайся па паратунак
Да сапраўдна-годнага настаўніка-беларуса.

* * *

У здаровым грамадстве-дзяржаве
Моўных праблем
На ўсіх узроўнях няма.

* * *

На цёмнай дарозе з Цемры
Родная мова і літаратура - ліхтар,
Настаўнік якім апякуецца.

* * *

Беларускі настаўнік -
Не пазалотчык
беларускай мовы і літаратуры,
Ён іх, залатых,
уручае з прыемнасцю вучням.

* * *

Настаўнік - яшчэ і грузчык:
Дар нябёс - беларускую мову і літаратуру
Ён перагружае ў душы сваіх навучэнцаў.

* * *

Настаўнік роднай мовы і літаратуры,
Да ўсяго, яшчэ і рэстаўратар
Душ беларускіх.

* * *

На засмяглую беларускую душу,
З любасцю пырсні, настаўнік,
Беларушчынай моўна-крынічнай.

* * *

У беларушчыны моры неабсяжным
Настаўнік - выдатны трэнер
І надзейны выратавальнік.

* * *

Беларускае слова, вуснае і пісьмовае,
Ад настаўніка-патрыёта -
Светазарны, ашчадны прамень.

* * *

Настаўнік беларусай мовы і літаратуры
Яшчэ і нашу еўрапейскасць
Сведчыць і замацоўвае.

* * *

Што Беларусь мяжуе з небам,
Паведамляе вучням гэта
Настаўнік-патрыёт.

* * *

Беларуская мова і літаратура
Маюць яшчэ і рысы неба,
А настаўнік, вядома, - нібыта небажыхар.

* * *

З мора беларускай мовы і літаратуры
У акіян Сусветнага духу
Нязменны лоцман - настаўнік.

* * *

Хто толькі не замахваўся
На беларускую мову і літаратуру?!.
Будзь пільным, беларускі настаўнік!

* * *

Беларускі настаўнік
Не дыхае варажнечай
Нават у адрас ворагаў беларушчыны.

* * *

Калі беларуская мова і літаратура
Выціскаюцца з Беларусі,
Настаўнік-патрыёт прагалы сабой закрывае.

* * *

Беларускі настаўнік -
То Боскі вецер, што развівае
Сцяг роднай мовы і літаратуры.

* * *

Прыкладам любові да Бацькаўшчыны
Для іншых настаўнікаў і суграмадзян
Быць павінен ты -
ахоўнік беларускай мовы і літаратуры.

* * *

Для акупанта
Настаўнік беларускай мовы і літаратуры -
Першы непрыяцель, амаль што вораг.

* * *

Калі настаўнік, - бы флюгарка,
Такая любоў да Бацькаўшчыны
Будзе і ў вучняў яго.

* * *

Што паробіш,
Калі беларускую мову і літаратуру
Часам даводзіцца праштурхоўваць.

* * *

Перажывем і тое,
Што чынавенства ў сваёй большасці
Грэбуе мовай зямлі беларускай.

* * *

Пісьменнасць і патрыятызм -
Вось крэда, дэвіз і задача
Настаўніка беларускага.

* * *

Хлеб настаўніка-беларуса
Мае подых і пах
Незалежнае Беларусі.

* * *

І беларускі настаўнік
Аб'явіць можа "Шах!"
Любому нядобразычліўцу.

* * *

Як Жана д'Арк ратавала Францыю,
Так сёння, настаўнік, ратуй
Літву-Беларусь!

* * *

Настаўнік роднае мовы і літаратуры,
Дазволь прад табой з удзячнасцю
Схіліць мне сваю галаву!

* * *

Больш за ўсё ў запасе бісеру
У настаўніка беларускай мовы
І літаратуры.

* * *

Па дарозе у вечнасць
Апірышча для настаўніка
І яго родная мова і літаратура.

* * *

P.S. Хто сее разумнае, добрае, вечнае,
Павінен разумны і добры
Заробак мець!

*Не ад Эзопа, а ад Язэпа*

## Звычка падвяла

Максім Апанасавіч Ляўковіч даседжваў на працы апошні год. У маладосці жвавы, няўрымслівы хлапец заўжды быў першым. Кіраўніцтву ўстановы, дзе малады спецыяліст пасля заканчэння тэхнікума пачаў працаваць, ніколі не пярэчыў. І яно паважала Максіма: як толькі які-небудзь сход - абавязкова ў прэзідыум. Прайшлі гады, Ляўковіч пастарэў, але па звычцы начальства ўсё роўна браніравала яму месца ў прэзідыуме. А ў таго жаданне там красавацца знікла, і гэты абавязак абрыд…

Максім Апанасавіч меў дасціпны розум і ў свой час пачаў прыглядацца, як паводзяць сябе ў прэзідыуме іншыя. Нехта маляваў чорцікаў, нехта камянеў выразам твару, хтосьці ўвогуле трупянеў, як той вуж перад пагрозаю. Былі і такія, хто спаў з расплюшчанымі вачыма. Апошняя метода Ляўковічу падабалася болей за іншых.

Але не так проста спаць з расплюшчанымі вачыма. Толькі праз колькі гадоў напружаных трэніровак удалося навучыцца. Надалей усё пайшло цудоўна. Імчаліся гады, мяняліся начальнікі, а гадзіна сну на старасці гадоў у прэзідыуме Ляўковічу была не лішняй. І пайшло-паехала да таго часу, пакуль Максім Апанасавіч не стаў у сне ў прэзідыуме слюнявіць, як малое дзіцё. За гэты неэтычны ўчынак яго пазбавілі пачэснага абавязку. Знаходзіцца ў зале не так шаноўна, але там вальней: можна адразу заплюшчыць вочы і нават даваць храпака…

У гэты раз паседжанне было звычайнае: падвядзенне вынікаў за квартал. Максім Апанасавіч прачнуўся толькі тады, калі службоўцы падаліся на выхад. Пятро Хільмановіч, самы малады супрацоўнік іхняга аддзела, раптам падаў руку:

- Віншую, дзед!

- З чым? - праганяючы рэшткі сну, запытаў Ляўковіч.

- Робіш выгляд, быццам усё праспаў? Відаць, адразу пабяжыш пакаваць чамаданы ў Швейцарыю.

Тут падышла Галіна Міхайлаўна, каханка Максіма ў маладосці.

- Глядзі мне, не гуляй там, - гулліва заўсміхалася яна.

- Ды пра што вы ўсе?... Нешта не разумею…

- Не прыкідвайся дурнем! У міністэрстве маецца пуцёўка на курорт, у Швейцарыю. Якраз для асобы сталага ўзросту. Дырэктар засведчыў перад усімі, што ты - адзіны кандыдат.

Потым Ляўковіча віншавалі супрацоўнікі аддзела, знаёмыя…

Тады Максім Апанасавіч нарэшце паверыў і напрыканцы працоўнага дня вырашыў завітаць да дырэктара. Але яго ў кабінеце не аказалася. Сакратарка адказала, што дырэктар адразу пасля нарады яшчэ паўгадзіны гутарыў з прадстаўніком з міністэрства, потым паехаў з ім.

Тут яна таямніча ўсміхнулася.

Падумалася: "Паехаў у рэстаран. Абмываць неіснуючыя поспехі."

Назаўтра раніцай Ляўковіч адразу, як кажуць, у лоб спытаў дырэктара:

- Ды, дзе ж, у рэшце рэшт, мая пуцёўка?

Дырэктар зірнуў здзіўлена і мовіў:

- Я ж аб'явіў на сходзе, каб ты адразу падышоў да прадстаўніка міністэрства. І паўгадзіны чакалі. Падумалі, што пуцёўка табе не патрэбна, і аддалі іншаму.

І Максім Апанасавіч застыў на месцы так, як быццам у прэзідыуме.

2000 г.

*Язэп Палубятка.*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі* № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
*Адрас рэдакцыі:*
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Людвіка Таўгень, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.

http://nslowa.by/ http://naszaslowa.by/
http://pawet.net/ http://kamunikat.org/
http://tbm-mova.by/ http://belkiosk.by/

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 29.07.2019 г. у 17.00. Замова № 1554.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1500 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 2,37 руб., 3 мес.- 7,11 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.